# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 42 (2236)

17 кастрычніка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


*У БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"*

## ПЕСНІ РАЗЫХОДЗЯЦЦА ПА СВЕЦЕ

Закончыліся штогадовыя курсы ўдзельнікаў і кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці з-за мяжы, што праводзіла Беларускае таварыства "Радзіма". Сёлета на курсах займалася дзесяць жанчын з Бельгіі і Польшчы, якія, па іх жа словах, каб пабылі разам не тры тыдні, а трошкі больш, маглі б скласці добры прафесійны ансамбль, накшталт тых, што яны бачылі і чулі ў Мінску.

Як заўсёды, курсы закончыліся справаздачным канцэртам і развітальным абедам. На канцэрце артысты паказалі ўсё, чаму навучыліся: спявалі беларускія фальклорныя песні, танцавалі "Полечку", "Кракавяк", "Лявоніху"; на абедзе мы пачулі ад іх словы падзякі за ўвагу і клопат, за магчымасць пабываць у Мінску, пазнаёміцца з мастацтвам Беларусі.

Тамара Ізотава, старшы метадыст Беларускага інстытута праблем культуры, якая курыравала работу курсаў, расказала, што іх установа імкнулася даць слухачам разнастайныя веды, якія дапамаглі б ім лепш зразумець народнае беларускае мастацтва, яго вытокі і сучасны стан. Навуковец М. Піліпенка на пачатку заняткаў прачытаў лекцыю аб узнікненні Беларусі, аб яе народзе як самастойнай нацыі з самабытнай мовай. Супрацоўніца Акадэміі навук Г. Барташэвіч расказала пра беларускі фальклор, прачытаны былі лекцыі і аб сучаснай беларускай песні. Многія лекцыі чыталіся на беларускай мове. Зразумела, што для нашых сяброўак з Беласточчыны тут праблем ніякіх не было, а вось Таццяне Абадзі і Паскаль Дэнеф спачатку даводзілася цяжкавата. Таня родам з Тамбова, зараз жыве ў Бельгіі, Паскаль — бельгійка.

— Але ўжо на другі дзень я пачала разумець беларускую мову, — гаворыць Таня. — Паскаль спатрэбілася трошкі больш час. Самае каштоўнае, што я адкрыла для сябе беларускі фальклор і палюбіла яго. Вашы песні задушэўныя і мілагучныя, прыгажосць іх надзвычайная. Няхай яны шырэй разыходзяцца па свеце. Шчаслівая, што пабывала ў Мінску.

На абедзе прысутнічаў старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку Алесь Баршчэўскі. Ён шчыра падзякаваў Беларускаму таварыству "Радзіма" за запрашэнне беларускіх жанок, удзельніц мастацкай самадзейнасці, на курсы. Наогул, сказаў ён, таварыства "Радзіма" было першай беларускай культурнай арганізацыяй, якая працягнула руку дапамогі сваім беластоцкім суайчыннікам. Многа ёю зроблена для таго, каб у Гайнаўцы паўстаў Беларускі музей, ужо некалькі гадоў запар прыязджаюць сюды летам на адпачынак нашы дзеці, на курсы — спевакі і танцоры. Вялікі дзякуй за ўсё "Радзіме".

Першы намеснік старшыні прэзідыума таварыства "Радзіма" Мікалай Васілёнак павіншаваў гасцей з заканчэннем курсаў, пажадаў поспехаў у іх рабоце, запрасіў да далейшага супрацоўніцтва.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**



Гэтым летам дзіцячы хор "Журавінка" мінскай сярэдняй школы № 130 прымаў у сябе хор равеснікаў "Белыя галасы" з італьянскага гарадка Санта-Джусціна. А зусім нядаўна юныя беларускія харысткі вярнуліся з паездкі ў Італію. Надоўга застануцца ў памяці сустрэчы з Італіяй, цікавыя экскурсіі, сустрэчы з італьянскімі равеснікамі, канцэрты. Майстэрства юных выканаўцаў пакарыла слухачоў. Узнёслымі воклічамі "брава", доўгімі апладысментамі і кветкамі заканчваліся выступленні мінчанак. Іншы раз рэлігійныя і беларускія народныя песні гучалі на імправізаваных пляцоўках проста на вуліцах, у саборах.

НА ЗДЫМКУ: у час выступлення ў адным з сабораў горада Трыеста.

Фота Ю. ПАЎЛАВА.





Гэтыя два здымкі Антона БАЛІЦКАГА нібы сімвалізуюць пачатак і канец шляху чалавека, які прыняў камуністычную ідэю і паверыў у тое, што Савецкая ўлада зробіць шчаслівым і адукаваным яго народ. Антон Баліцкі поўны рэвалюцыйнага аптымізму (здымак справа), і ён жа — знішчаны як асоба д'ябальскай малатарняй сталінскіх рэпрэсій (фатаграфія зроблена ў турме).

Сёння мы друкуем (на 3-й стар.) апошні раздзел нарыса А. Караля "Нарком беларускага адраджэння".

## ЖЫЦЬ РАЗАМ, АЛЕ КОЖНЫ СВАІМ УКЛАДАМ

**ГУТАРКА РЭДАКТАРА ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ" Вацлава МАЦКЕВІЧА З НАРОДНЫМ ДЭПУТАТАМ СССР Міхаілам САВІЦКІМ.**

**Мне неаднаразова даводзілася браць інтэрв'ю ў Міхаіла Савіцкага па праблемах супрацоўніцтва з эміграцыяй (ён, як вядома нашым чытачам, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства "Радзіма"), мае калегі гутарылі з ім як з мастаком (Міхаіл Андрэевіч — правадзейны член Акадэміі мастацтваў СССР, доўгія гады ўзначальваў Саюз мастакоў БССР). На гэты раз прыйшла думка правесці з ім дыялог як з грамадскім дзеячам, палітыкам, бо Міхаіл Савіцкі — народны дэпутат СССР, а да гэтага быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі двух скліканняў. Так што намер мой, лічу, не беспадстаўны: палітычны багаж М. Савіцкага даволі важкі. Ведаю, што з яго думкай лічыліся ў нашых "вярхах", хаця і не заўсёды яе падзялялі. Часта яго проста цярпелі і лёгка дакаралі за рэзкія выступленні на розных камісіях Вярхоўнага Савета БССР.**

**Мае асабістыя дыскусіі ў яго майстэрні за шклянкай чаю былі доўгімі, але не нуднымі. Наадварот, час пралятаў, бы імгненне, і я развітваўся з Міхаілам Андрэевічам радасна ўзбуджаны, уведаўшы новы, зусім інакшы пукт гледжання на, здавалася б, як свет, старыя ісціны. Не кожны раз я пагаджаюся з меркаваннем Савіцкага, але заўсёды паважаў і паважаю яго думку, бо яна шчырая.**

*— Міхаіл Андрэевіч, ужываючы ў нашай публіцыстыцы ды і ў палітычнай палеміцы выраз "гістарычная падзея", мы, бы ў той непатрэбнай штодзённай мітусні імя Божае, вымаўляем яго часцей не да месца, чым да месца. У нас, і не толькі цяпер, усё — гістарычнае, эпахальнае. Але я асмелюся сцвярджаць, што не вазьму граха на душу, калі скажу, што вы былі ўдзельнікам сапраўды гістарычнай падзеі — прысутнічалі на V нечарговым з'ездзе народных дэпутатаў СССР, на якім адбыўся распад нашага Саюза. Скажыце, толькі шчыра, СССР рассыпаўся?*

— Сам з'езд сабраўся ва ўмовах, калі Саюз ужо распаўся.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

## УПЕРШЫНЮ...

У Нью-Йорку адбылася сустрэча міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь і дзяржаўнага сакратара ЗША. Яе характарызавала добразычлівая атмасфера дзелавога абмеркавання пытанняў, якія ўзаемна цікавяць бакі.

У ходзе сустрэчы П. Краўчанка і Дж. Бейкер дамовіліся аб пачатку працэсу двухбаковых палітычных кансультацый паміж Рэспублікай Беларусь і ЗША на розных узроўнях, якія ўключалі б, па меры неабходнасці, рабочыя сустрэчы экспертаў, міністраў замежных спраў і дзяржсакратара, сустрэчы на высокім палітычным узроўні.

* * *

У Нью-Йорку адбылася першая афіцыйная сустрэча міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанкі з міністрам замежных спраў Германіі Г.-Д. Геншэрам.

* * *

Адбыўся візіт урадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на чале з прэм'ерам В. Кебічам у Рэспубліку Польшча. Прынята сумесная дэкларацыя аб асноўных прынцыпах добрасуседства і супрацоўніцтва. Гэта першы факт наладжвання міждзяржаўных адносін Рэспублікі Беларусь, незалежнасць і суверэнітэт якой пакуль што прызнала толькі суседняя Польшча.

* * *

У Мінску адбылася першая сустрэча беларускай і літоўскай груп па падрыхтоўцы дагавора аб прынцыпах міждзяржаўных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай.

ТРЫВОЖНА

## НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС

Захоўваецца небяспека новага выкіду радыеактыўных матэрыялаў, заявіў у гутарцы член Камісіі Вярхоўнага Савета СССР па расследаванню прычын аварыі на Чарнобыльскай АЭС, намеснік начальніка аддзела "Спецатама" Уладзімір Пянькоў.

Як вядома, у выніку работ па ліквідацыі вынікаў аварыі на 4-м блоку АЭС быў створаны комплекс ахоўных збудаванняў, які павінен быў лакалізаваць крыніцу радыяцыйнага забруджвання. Аднак даследаванні, праведзеныя групай вучоных і спецыялістаў на АЭС у 1986—1990 гадах, паказалі, што стан аб'екта не адпавядае патрабаванням бяспе... зведзены ў 1986 годзе "саркафаг" не забяспе... належнай ступені аховы. Унутры збудавання адсутнічае сістэма вентыляцыі, газу і пылаачысткі. Атмасферныя ападкі, трапляючы ўнутр "саркафага", выносяць радыеактыўныя часціцы ў грунтавыя воды.

ЭКАЛОГІЯ

## ЧЫМ ДЫХАЦЬ?

Вуліца Сурганава ў Мінску асабліва таксічная на перакрыжаванні з Ленінскім праспектам. На адрэзку 700—900 метраў ля Акадэміі навук загазаванасць перавышае крайне дапушчальныя нормы ў 9—10 разоў. У бязветраныя дні — да 30 разоў. Ля Дома друку, дзе шырыня магістралі, уключаючы і тратуар, не больш за 35 крокаў, месцяцца чатыры трох- і чатырохпавярховыя дамы. На іх дахах і гарышчах даўно не селяцца ні галубы, ні вераб'і. Па сваіх экалагічных аналагах вуліца не мае роўных у сталіцы Беларусі. Па сутнасці, кожны жыхар пакутуе ад якога-небудзь захворвання — верхніх дыхальных шляхоў, крыві, нырак, суставаў... Зямля, асфальт, сцены дамоў таксама "хварэюць", — пакутуюць ад прагрэсіруючай карозіі, ад уздзеяння солей цяжкіх металаў і бензанату натрыя. Толькі за мінуту жарало вуліцы прапускае праз сябе ў час пік да ста адзінак цяжкага грузавога транспарту, не лічачы легкавых аўтамабіляў.

Спецыялісты-эколагі рэкамендуюць жыхарам дамоў для захавання здароўя завесці кандыцыянеры і не адчыняць ні фортак, ні тым больш вокнаў сваіх кватэр. Кошт самага таннага кандыцыянера "БК-1500" дасягае 9 тысяч рублёў.

НОВЫЯ ЭКАНАМІЧНЫЯ СУВЯЗІ



У Брэсце пачаў дзейнічаць транспартна - экспедыцыйны комплекс канцэрна "Саюззнештранс". Ён складаецца з кантэйнернага тэрмінала і крытага складскога корпуса, да якога падведзены заходнееўрапейская і шырокая наша чыгуначныя калеі. Адначасова тут можна апрацоўваць 10 вялікагрузных аўтамабіляў і 12 вагонаў. Усе работы поўнасцю механізаваны, улік грузаў вядзецца з дапамогай камп'ютэраў. Ужо пачаліся аперацыі па разгрузцы і пагрузцы вагонаў, прыняты на захоўванне першыя замежныя грузы.

НА ЗДЫМКУ: прадпрыемства мае свой аўтатранспарт, які падвозіць грузы да чыгуначных саставаў.

*"Да незалежнай дзяржавы (Рэспубліка Беларусь. — Рэд.) яшчэ далёка. Гэта мара, думка, якой многія зараз жывуць. Павінна быць самастойная эканоміка, свае формы жыцця, дэмакратыі. А інакш я і не мыслю незалежнасці... Тое, што атрымалі грузіны ў эйфарыі незалежнасці, мала радасці ім дало. А між тым 87 працэнтаў іх прагаласавалі за Гамсахурдзія. Вядома ж, калі здалася такая нагода — трэба карыстацца. Як кажуць, "куй жалеза, пакуль Гарбачоў" ці пакуль Ельцын, барыкады... Але тут жа трэба спыніцца, азірнуцца: а што робіцца ў суседзяў? Сёння я чуў ноччу, што ў Таджыкістане адбыўся свой путч. Знайшлі там нейкага свайго Слюнькова ці Сакалова, прыцягнулі на трон і кажуць: хопіць з нас самастойнасці, дэмакратыі, будзем жыць, як жылі 75 гадоў. Таму, абяцаўшы незалежнасць, трэба паглядзець: а ці маем мы яе на самай справе?"*

*(З інтэрв'ю Алеся АДАМОВІЧА газеце "Рэспубліка").*

ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ

## АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА ЭКАНАМІСТЫ

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Саюза эканамістаў Беларусі. Аб сур'ёзнасці намераў эканамістаў можна меркаваць па распаўсюджанай на канферэнцыі ў якасці рабочага дакумента праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі як суверэннай дзяржавы. Яе аўтары пр...уюць ужо ў бліжэйшы час прыватызаваць 85—90 працэнтаў прадпрыемстваў і арганізацый народнай гаспадаркі, правесці рашучую лібералізацыю цэн, скараціць колькасць рэспубліканскіх міністэрстваў да 13.

Пад сцягі эканамічнай рэформы кіраўнікі саюза спадзяюцца прыцягнуць біржавікоў, банкіраў, камерсантаў, іншых прадстаўнікоў маладога бізнесу.

ПАМЯЦЬ

## АХВЯРАМ БЕЗЗАКОННЯ

Мемарыяльны знак у выглядзе крыжа і гранітных надмагільнікаў устаноўлены на каталіцкіх могілках каля вёскі Сурканты Воранаўскага раёна. Тут пакоіцца прах 35 польскіх салдат і афіцэраў Арміі Краёвай, якія загінулі ў 1944 годзе пры адыходзе з суседняй Літвы. На плітах з'явіліся імёны тых воінаў, прозвішчы якіх удалося ўстанавіць.

Знак-мемарыял выраблены па ініцыятыве польскага таварыства аховы памяці барацьбы і пакут на сродкі грамадскіх арганізацый гэтай краіны.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● У Беларусі на працягу сёлетняга года створана 500 фермерскіх гаспадарак на вёсцы. У іх валоданні 137 тысяч гектараў зямлі. Сярэдні надзел беларускага селяніна 20-25 гектараў.

● За восем месяцаў гэтага года рост грашовых даходаў насельніцтва Беларусі склаў 59 працэнтаў, а расходы на тавары і паслугі толькі 51 працэнт. Гэта прывяло да таго, што зберажэнні жыхароў рэспублікі павысіліся на 3,8 мільярда рублёў і дасягнулі 20,5 мільярда рублёў.

● "Ледзь не палова членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі — сексоты", — заявіў Васіль Быкаў. Аргумент, які дае падставы вядомаму пісьменніку абвінавачваць свая сабратаў па пяру ў супрацоўніцтве з КДБ, — "жыццёвы вопыт".

● Прэзідыум Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь даручыў старшыням Брэсцкага, Гродзенскага і Мінскага аблвыканкомаў устрымацца ад якіх-небудзь дзеянняў па далейшаму размяшчэнню і будаўніцтву жылых гарадкоў для ваеннаслужачых тых воінскіх часцей, якія выводзяцца з краін Усходняй Еўропы.

● Толькі 9 працэнтаў вучняў старэйшых класаў, якія скончаць школу ў 1992 годзе, хацелі б набыць рабочыя прафесіі. Затое аж 60 працэнтаў апытаных сацыялагічнай службай мараць займацца камерцыйнай дзейнасцю.

● У рэспубліцы з'явілася новае інфармацыйнае агенцтва — БелПАН (Беларускае Прыватнае Агенцтва Навін). Яно мае намер скласці канкурэнцыю афіцыйнаму БЕЛТА. Прынцып новага агенцтва — свабодны паток інфармацыі, аператыўнай і цікавай для чытача.

● Паводле даных сацыялагічных апытанняў маскоўскай службы "Мнение", рэйтынг М. Гарбачова скаціўся да мінус 88, не намнога большы ён і ў Б. Ельцына — 22 працэнты.

● За вялікія заслугі ў развіцці беларускай мастацкай літаратуры вядомаму паэту Нілу Гілевічу Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прысвоена званне "Народны паэт Беларусі".

● У Брэсце зарэгістравана першае прадпрыемства са стопрацэнтным укладам замежнага капіталу — фірма "Акіян-Поліш". Высакаякасныя прамысловыя тавары, якія мае намер прадаваць фірма, будуць дастаўляцца ў Брэст з Ганконга.

● Каталіцкая і праваслаўная грамада ў Лідзе вядуць цяганіну з-за будынка былога касцёла, у якім вось ужо трыццаць гадоў месціцца планетарый. Гарадскія ўлады гатовы аддаць яго веруючым, але каму?

НА ЛЬНЯНЫМ ПОЛІ

Прыбытак ад ільну сёлета будзе добры, лічыць старшыня калгаса імя Чапаева Глыбоцкага раёна Іван Мацкевіч. У гэтым годзе пад лён у гаспадарцы было занята 110 гектараў. Трэцюю частку ўраджаю ўбралі па рулоннай тэхналогіі, што робіць работы больш таннымі. Ды і людзей з боку запрашаць не давялося, за выключэннем дзяцей з падшэфнай школы ў Глыбокім.



НЕВЯДОМАЕ

## ГЕРОЙ РАСІІ ЖЫЎ У ПІНСКУ

Уладзімір Усаў — адзін з трох абаронцаў расійскага "Белага дома", якія загінулі на барыкадах у дні дзяржаўнага перавароту, кроў якіх спыніла войскі перад сценамі парламента. Як паведаміла нядаўна газета "Советская Белоруссия", Герой Савецкага Саюза Уладзімір Усаў — сын контр-адмірала Аляксандра Усава, які амаль 10 гадоў праслужыў у Пінску. Уладзімір, ідучы па слядах бацькі, абавязковую воінскую службу адбыў матросам на Балтыйскім флоце, а пасля дэмабілізацыі пачаў працаваць начальнікам тэлефоннай станцыі ў Пінску. Тут жа ён завочна скончыў Столінскі сельскагаспадарчы тэхнікум, атрымаў прафесію бухгалтара. Потым пераехаў у Маскву.

Сярод людзей У. Усаў пакінуў па сабе добрую памяць.

НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# НАРКОМ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

Гэты матыў выбару Баліцкага супадаў з матывацыяй бальшасці прадстаўнікоў левага крыла беларускага нацыянальнага руху, якое прымкнула да бальшавікоў.

Разам з прадстаўнікамі інтэлігенцыі яны і створаць тое ядро, якое ў многім і вызначыла канкрэтны змест і напрамкі палітыкі беларусізацыі. Наркамат асветы, у кампетэнцыю якога ў той час уваходзілі не толькі пытанні адукацыі, але і навукі, культуры, стаў свайго роду штабам усёй работы нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы. Яго дзейнасцю былі на практыцы закладзены асноватворныя элементы палітыкі беларусізацыі, якая ў 1923 — 1924 гадах у шэрагу рашэнняў і пастаноў ЦК КП/б/Б, ЦВК і СНК БССР атрымала выраз і статус афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі. Грунтаваліся гэтыя пастановы ў многім на папярэдніх прапановах і распрацоўках Наркамата, якія ў сваю чаргу ўвабралі ў сябе, абагульнілі ідэі і меркаванні шырокага кола людзей: ад вядомых дзеячаў навукі і культуры да радавых настаўнікаў, студэнтаў, рабочых і сялян. Такі характар фарміравання і ажыццяўлення палітыкі беларусізацыі быў забяспечаны ў значнай меры асабістымі намаганнямі кіраўнікоў Наркамата асветы — У. Ігнатоўскага, А. Баліцкага. Стыль работы Антона Васільевіча кабінетным, бюракратычным ніяк не назавеш: бясконцыя паездкі па рэспубліцы, сустрэчы ў калектывах, сотні размоў з людзьмі самых розных сацыяльных слаёў і прафесій. І цесная, пастаянная сувязь з інтэлігенцыяй. І не толькі ў наркомаўскім кабінеце (куды, дарэчы, заходзілі папросту), а і, скажам, на знакамітых вечарынах у Янкі Купалы, дзе бывалі як імяністыя пісьменнікі, паэты, так і літаратурная моладзь. Збіраліся часта і ў гасцінным доме Баліцкіх, дзе наладжваліся імправізаваныя канцэрты. Антон Васільевіч меў багата сяброў, з найбольш блізкіх — А. Чарвякоў, З. Жылуновіч, З. Прышчэпаў, А. Адамовіч, П. Ільючонак. Прыйдзе час, і ўсплывуць гэтыя вечары ў абвінавачваннях як "нацдэмаўскія зборышчы", на якіх, аказваецца, выспявала контррэвалюцыйная антысавецкая змова. І самае горкае: будуць фігураваць у "справе" адпаведным чынам інтэрпрэтаваныя словы ўдзельнікаў тых вечароў. Значыць нехта ж і запісваў, і інфармаваў ДПУ.

У тым, што сістэма асветы ў БССР з самага пачатку стваралася і да канца 20-х гадоў, пры ўсіх сваіх недахопах, склалася як сістэма нацыянальнай адукацыі — прамая заслуга і А. Баліцкага. Ужо ў 1923 годзе да 20 працэнтаў школ вялі навучанне на беларускай мове, у 1928 годзе — 80 працэнтаў. Пры гэтым, як адзначаў сам А. Баліцкі ў адным сваім артыкуле, беларусізацыя школы вялася паступова, пачынаючы з малодшых груп і ў строгай адпаведнасці з зыходным прынцыпам — забяспечыць права кожнай нацыянальнасці ў Савецкай Беларусі вучыць дзяцей на роднай мове. З той жа энергіяй, як і аб стварэнні беларускіх школ, забяспячэнні іх матэрыяльнай базы, клапаціўся ён і аб стварэнні школ рускіх, яўрэйскіх, польскіх, латышскіх, нямецкіх, украінскіх, літоўскіх, эстонскіх. Агульным арыенцірам служылі ўдзельная вага кожнай нацыянальнасці ў агульнай колькасці насельніцтва БССР і жаданне бацькоў. Але пры гэтым беларуская мова, як мова большасці насельніцтва БССР, з'яўлялася ва ўсіх навучальных установах абавязковай, незалежна ад таго, на якой мове яны працавалі. Непасрэдна на А. Баліцкім ляжала адказнасць і за стварэнне сістэмы падрыхтоўкі настаўнікаў. Была наладжана шырокая сетка курсаў, да 1927 года адкрыта 15 педагагічных тэхнікумаў, з іх 3 яўрэйскія і адзін польскі [illegible] я падрыхтоўкі настаўніка[illegible] я латышскіх школ Наркамат асветы за свой кошт пасылаў юнакоў і дзяўчат вучыцца ў Ленінград, дзе меўся латышскі педагагічны тэхнікум.

З вялікім тактам ста[illegible]я А. Баліцкі да беларусі[illegible]і прафесійных школ, спецыяльных сярэдніх навучальных устаноў, вышэйшай школы, дзе склад навучэнцаў адрозніваўся нацыянальнай стракатасцю. Па гэтай прычыне да 1927 года толькі педагагічныя тэхнікумы цалкам перайшлі на беларускую мову выкладання, сельскагаспадарчыя — на 60 працэнтаў, іншыя — ад 12 да 38 працэнтаў, вышэйшыя навучальныя ўстановы — на 17,5 працэнта. Дзяржаўны дзеяч канчаткова перамог у Баліцкім рэвалюцыйнае нецярпенне.

Свой важкі ўклад унёс Антон Васільевіч і ў арганізацыю, развіццё БДУ. Яго подпіс стаіць пад гістарычным актам закладкі будынкаў універсітэта 6 лістапада 1927 года, які да таго туліўся ў 14 розных памяшканнях, раскіданых па ўсяму Мінску. Садзейнічаў адкрыццю музея рэвалюцыі, увогуле станаўленню музейнай справы (на 1927 год у рэспубліцы дзейнічала 15 музеяў), стварэнню Беларускай дзяржаўнай бібліятэкі. У многім дзякуючы яго дапамозе, хутка і без асаблівых цяжкасцей быў адкрыты Інстытут беларускай культуры, а яго калектыў атрымаў добрыя ўмовы для працы, для выдання сваіх даследаванняў. Дастаткова сказаць, што за пяць гадоў вучонымі Інбелкульта былі распрацаваны і выпушчаны ў свет беларускія тэрміналагічныя слоўнікі па асноўных галінах навукі. А. Баліцкі быў гарачым прыхільнікам стварэння на Беларусі Акадэміі навук. І слушна паспрыяў гэтаму як нарком і як член (з кастрычніка 1928 года) урадавай камісіі па рэарганізацыі Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук. У снежні 1928 года ён быў зацверджаны членам Прэзідыума БАН.

Здавалася б, час вышэйшага ўзлёту, дасягнення творчага росквіту і сталасці як дзяржаўнага кіраўніка. Але ў дзверы яго наркомаўскага кабінета ўжо стукалася бяда. На Беларусі распачыналася кампанія па выкрыццю і разгрому так званага нацыянал-дэмакратызму, з'ява, якую можна лічыць увасабленнем адной з канкрэтных мадэляў таго палітычнага курсу Сталіна і яго паплечнікаў, які прывядзе да стварэння таталітарнага рэжыму ў СССР, ператворыць яго (не мяняючы шыльды) з федэрацыі ў дзяржаву унітарнага тыпу. Відавочна, што лёс такіх людзей, як А. Баліцкі, быў прадвызначаны. Яму не вельмі спакойна жылося і ў папярэднія гады. Калі, напрыклад, У. Ігнатоўскі да 1929 года крытыцы не падвяргаўся, партыйных спаганняў не меў, то Баліцкі, можна сказаць, знаходзіўся амаль пад несупынным ціскам. 24 мая 1924 года ў ходзе партыйнай чысткі пастановай праверачнай камісіі яго выключаюць з партыі "как идеологически чуждый элемент, не переваривший за время пребывания в партии, бюрократизм и оторванность от партийной жизни". Гэта заключэнне было зроблена на падставе абвінавачванняў у прыданні святкаванню юбілею З. Жылуновіча палітычна памылковага мяшчанскага характару (арганізацыю банкета), у адступленні ад бальшавіцкіх прынцыпаў падчас партыйнай дыскусіі. Але глыбінныя сапраўдныя прычыны былі ў іншым, аб якіх можна меркаваць з выступлення В. Шаранговіча на пасяджэнні Партыйнай калегіі ЦКК ВКП(б) 21 чэрвеня 1924 года, дзе разглядалася апеляцыя А. Баліцкага. "Пры праверцы Наркамасветы, — чытаем у стэнаграме, — параўноўваючы фігуры Баліцкага і Жылуновіча, мы вырашылі, што фігура Жылуновіча ў нацыянальных адносінах больш важная, чым Баліцкага, і мы выключылі яго на год". (Але ж і пра Баліцкага, як бачым, не забыліся.) І далей: "Калі гаварыць аб палітычным боку, то трэба пакончыць з гэтым высокім меркаваннем у беларусаў аб саміх сабе. На пытанні, ці адчуваюць у сябе ідэалагічны ўхіл, адарваласць ад мас, адказваюць — не, не адчуваем... Трэба аднача тузануць, які ў палітычных адносінах не чысты. Тут трэба правесці гэтую лінію да канца і ў адносінах астатніх добра ўстрахануць". На гэты раз, аднак, А. Баліцкаму ўдалося адбіцца. Цікава, што ў яго абарону выступіла бюро ЦК КП(б)Б. Менавіта на падставе прапановы бюро партыйная калегія 28 жніўня 1924 года прыняла пастанову пакінуць А. Баліцкага ў партыі, аднак "паставіць на від яго няўстойлівасць, ваганні і нявытрыманасць у ажыццяўленні ім, як членам партыі, пастаўленага партыяй на кіруючую пасаду, тактыкі і прынцыпаў бальшавізму". У 1926 годзе — зноў непрыемнасці: А. Баліцкага абвінавачваюць, што на з'ездзе настаўнікаў, арганізатарам якога ён з'яўляўся, не вывесілі партрэт Сталіна, ставяць у віну, што не пратэставаў супраць афармлення залы, дзе праходзіла акадэмічная канферэнцыя, у беларускім нацыянальным каларыце, а ў выступленні на канферэнцыі ні разу не сказаў аб ролі Камуністычнай партыі ў стварэнні БССР і развіцці беларускай культуры.

І вось 1928 год. Кампанія па разгрому нацыянал-дэмакратызму накатвае хваля за хваляй, уздымаецца да масавай істэрыі, пад агонь знішчальнай крытыкі пападаюць усё новыя і новыя людзі — лепшыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. У гэтай атмасферы трэба было мець мужнасць не паддацца страху, не даць уцягнуць сябе ў шальмаванне іншых і тым больш выступіць у абарону таго, хто падвяргаўся цкаванню. Вось учынак, які яскрава характарызуе А. Баліцкага: у сакавіку 1929 года па яго ініцыятыве Калегія Наркамата асветы прымае спецыяльную пастанову ў абарону акадэміка У. Пічэты. Аднак ужо ў жніўні над[illegible]а чарга і самога Антона [illegible]сільевіча: яго вызваляюць ад абавязкаў народнага камісара асветы. 17 верасня Прэзідыум ЦКК КП(б)Б за няправільную выдачу бланкаў для праезду па чыгунцы, за [illegible]ыканананне пастановы На[illegible]мата рабоча-сялянскай інспекцыі, за неаргументаванае прадстаўленне шэрагу асоб (да 10-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі) да ўзнагарод ордэнам Чырвонага Сцяга аб'явіў А. Баліцкаму строгую вымову з накіраваннем яго на два гады на нізавую работу. Такі прысуд вызваленаму ад пасады наркому можна лічыць даволі мяккім. Сістэма, якая ўсталёўвалася, яшчэ не адпрацавала сваіх прыёмаў, ёй яшчэ для абвінавачвання патрабаваліся хаця б праўдападобныя падставы. У даным выпадку яны былі вельмі слабыя. Ды і ў кіруючых органах самой партыі сталіністы яшчэ не ўсюды складалі большасць. Ішла барацьба. З кастрычніка бюро ЦК КП(б)Б звярнулася ў Прэзідыум ЦКК з просьбай аб пераглядзе пастановы ў частцы забароны займаць кіруючыя пасады. У выпадку згоды быў намер накіраваць Баліцкага дырэктарам Беларускага сельскагаспадарчага трэста. Аднак Прэзідыум адмовіў.

Мужна, рашуча і пераканаўча адбіваўся А. Баліцкі і ад абвінавачванняў у праваўхілісцкай, нацыянал-дэмакратычнай дзейнасці, якія абрушыў на яго нехта А. І. у артыкуле "Палітыка і людзі", надрукаваным спачатку ў "Сельскохозяйственной газете" і перадрукаваным 27 верасня газетай "Рабочий". І тым бараніў не толькі сябе — стрымліваў больш шырока задуманую акцыю на зрыў нацыянальнага адраджэння, зрыў палітыкі беларусізацыі, на замену нацыянальных кадраў. Як сцвярджалася ў артыкуле, у БССР на працягу гадоў пытанне аб кадрах вырашалася своеасаблівай палітыкай уступак "карыфеям" нацыянальнага руху, патураннем нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі, якая скарыстала гэта, каб захапіць у свае рукі навуковыя ўстановы, пранікнуць на адказныя пасады ў шэраг савецкіх і партыйных органаў. Называліся канкрэтныя імёны (чым не публічны данос!), большасць з якіх у хуткім часе пападуць у спісы членаў сфальсіфікаваных АДПУ контррэвалюцыйных арганізацый: сябры Прышчэпава, "беспартыйны кулак" Масальскі, "нацдэмы" Гарэцкі, Серада, "сталыпінец" Кісляков, адзін з "карыфеяў" нацыянальнага руху Смоліч, "нацдэм і паланізатар беларускай мовы" Лёсік, Ластоўскі, Трэмковіч, Байкоў, Азбукін. Асобна Стасевіч—былы загадчык аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б, які "прыкрываў аўтарытэтам ЦК усе апартуністычныя хібы ў Наркамаце асветы".

А. Баліцкі піша аргументаваны і рэзкі адказ у рэдакцыю. Ён не апраўдваецца, ён доказна абвяргае і выкрывае адзін за адным выпады ананімнага аўтара як паклёпніцкія. Рэдакцыя адмаўляецца друкаваць. Тады Антон Васільевіч праз галаву ЦКК КП(б)Б звяртаецца ў ЦКК ВКП (б) з патрабаваннем разгледзець яго справу і ці надрукаваць яго артыкул, ці даць абвяржэнне ад рэдакцыі. Крок гэты, відаць, быў нечаканы, а можа не ўсё было гатова для рашучага наступу: па распараджэнню Е. Яраслаўскага заява А. Баліцкага была разгледжана ў ЦКК КП (б)Б. У хуткім часе ў газеце "Рабочий" паявілася заметка, у якой рэдакцыя абвясціла, што яна не салідарызуецца са зместам артыкула "Палітыка і людзі".

Перамога, аднак, была і недоўгай, і няпоўнай. Яго як бы выкраслілі з жыцця. Як устанавіў гісторык Э. Іофе, уладкаваўся Антон Васільевіч настаўнікам на Гомельшчыне. Але аб ім не забыліся. З верасня 1930 года яго арыштавалі па справе так званага "Саюза вызвалення Беларусі". І толькі 18 кастрычніка выключылі з партыі пры разглядзе на бюро ЦК КП(б) пытання аб гэтай арганізацыі. З 86 чалавек, што праходзілі па гэтай справе, толькі чатыры — А. Баліцкі, З. Прышчэпаў, А. Адамовіч, П. Ільючонак — былі асуджаны калегіяй АДПУ на 10 гадоў канцлагераў. Усе члены КП(б)Б, усе займалі адказныя пасады. Астатніх, у тым ліку В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, А. Цвікевіча, С. Некрашэвіча, якіх АДПУ ў сваіх распрацоўках адносіла да кіруючага ядра СВБ, — асудзілі на 5 гадоў высылкі за межы Беларусі. Факт, які характарызуе накірунак першага галоўнага ўдара Сталіна і яго каманды: па кіраўніцтве партыі, па тых людзях, якія складалі ці маглі скласці апазіцыю, супрацьўленне яго курсу.

Адбываў пакаранне Антон Васільевіч у Беламорска-Балтыйскім лагеры НКУС. У верасні 1937 года ён зноў стаў падследным. Абвінавачваюць у кіраўніцтве нацыянал-фашысцкай арганізацыяй Беларусі, у вядзенні актыўнай дыверсійна-шкодніцкай работы ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і савецкім апараце, шпіянажы на карысць Польшчы. Стандартны набор. Доказы ўжо не патрабаваліся. Хапала прызнання, якое вырывалі пад катаваннямі. Машына рэпрэсій ужо была адладжана.

30 кастрычніка 1937 года Баліцкі быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і на наступны дзень пакараны.

Зараз ён цалкам рэабілітаваны.

Аляксей КАРОЛЬ.

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 40, 41.**




153

— І ты здольны на такое каханьне? — засьмяяўся Кірыла. — Кінь ты, не сьмяшы людзей.

— Я? — крыху абразіўся Тугоўскі. — Так ты лічыш, як і ўсе нашыя беларусы лічаць мяне, напэўна, нyздольным ні да чаго? Не, брат, я належу да тых людзей, якія здольны на ўсялякія бязумствы. Слабыя людзі моцныя сваім адчаем. І сяньня, калі я ў адчаі, я моцны.

— Кінь ты, Гамлет няшчасны! Зноў ты пачынаеш плясьці дурніцы. Выпій піва лепш, супакойся.

— Ах, "айцец" Кірыла! Справа ня ў Гамлеце, ня ў піве, справа ў маім жыцьці... У мне самім... Паслухай мяне. За піўным сталом заўсёды лепш кідаць філязофскія думкі й спавядацца. Дык вось... Мне здаецца, што я маю права рваць яблыкі ў тым садзе, які завецца жыцьцём. Тысячы розных сартоў яблык у гэтым садзе, толькі ўмей іх зрываць. А між тым не зрываю... Калі прыдзе ноч і я застаюся адзін, я думаю: "Чаму?" Я пытаю сябе: "Чаму?" І я адказываю цяпер: "Таму, што мяне ніхто не кахае..." Ня сьмейся, "айцец" Кірыла, ня сьмейся. Гэта факт. Каханьне — гэта атэстат сьпеласці, які выдае жанчына мужчыне. Там праставляюцца розныя адзнакі за яго посьпехі і здольнасьці: там відацца, хто зьяўляецца найбольш здольны, каму даць сярэбраны ці залаты медаль. Чым больш у гэтым пасьведчаньні медалёў, тым, знача, больш здольны чалавек, тым больш кахае яго жанчына. Раней, чалавеча, у маёй маладасьці, я думаў, што бегаюць за жанчынамі пустыя людзі, без творчай карыснай працы. Тады я ня мог глядзець на іх інакш, як зьверху ўніз, але цяпер усё зьмяшалася: я гляджу на іх зьнізу ўверх. — Ён глытнуў крыху піва й прадоўжываў: — Я цяпер ведаю, што чым больш кахае жанчына мужчыну,

154

тым ён здольнейшы, тым лепшы яна выдае яму атэстат.

— Дурніцы! — перабіў яго Кірыла. — Хіба мала на сьвеце дуракоў, якіх кахаюць жанчыны, мала п'яніц азартных, гуляк жанатых. Дык наогул ёсьць розныя жанчыны, і іх ацэнка ня можа быць зусім аб'ектыўнай — яна заўсёды будзе суб'ектыўнай. Так, напрыклад, нямала ёсьць жанчын-п'яніц... Знача, яна будзе цаніць у мужчыны тыя самыя якасьці, што і ў самой сабе.

— Ня ведаю. Але мне здаецца: ёсьць мужчыны, каторыя падабаюцца жанчынам без вынятку. У іх ад прыроды ёсьць такія "мужскія" якасьці, што яны прымушаюць біцца любое жаночае сэрца. Агулам я хачу даказаць, што людзі са здольнасьцямі могуць мець самую прыгожую жанчыну на сьвеце. Паглядзі, які-небудзь музыкант, інжынер, вучоны, словам, той, аб якім перадаецца з вуснаў у вусны, — як пакарае ён жанчын, як кідае ён іх бы кветкі і ляціць у новыя абоймы. Цяпер вазьмі другую крайнасьць: які-небудзь дурань, які выклікае толькі насьмешкі ад гэтых самых жанчын, як адпіхіваюць яны яго самыя шчырыя прызнаньні, як ганебна адкідаюць яго пачуцьці. Словам, жанчына жыве агульнай тэорыяй, яна фактычна кахае не мужчыну, а яго грамадскае палажэньне. Праўда ці не? Я думаю: будзь ты самым першым прыгажуном у сьвеце, але служы ты ў абозе, ні адна жанчына не гляне на цябе. І, наадварот, будзь ты самым уродам, але займай міністэрскае крэсла, — ты не адаб'есься ад чароўнага полу. Такім чынам, мне здаецца, ясна, што жанчыны кахаюць не самога мужчыну, а толькі яго палажэньне ў жыцьці. І вось таму я кажу, што жанчына — гэта нейкі барометр, па якому можна азначыць

155

грамадзянскую вартасьць чалавека, і каханьне — гэта атэстат вартасьці, які яна выдае. Па каханьню можна ацаніць чалавека. Скажы, хто цябе кахае, і я скажу, хто ты.

Кірыла голасна расьсмяяўся:

— Філязоф-самавука, — казаў ён праз сьмех.

— Ня сьмейся, "айцец" Кірыла, — усьміхаючыся таксама, зазначыў Тугоўскі. — Кожны пасвойму разумны. Адно табе скажу я: вельмі нізкае грамадскае палажэньне такога, хто ня быў каханы. Я цьвярджу, што якая-небудзь "старая дзева" абсалютна нуль у параўнаньні з тэй жанчынай, якая выйшла замуж і стала маткай, бо ў ей было шмат недахопаў, якія не дазвалялі ей кахаць. Тое самае: грош цана таму чалавеку, які на ўсё жыцьцё застаўся халасьцяком.

— Мне здаецца, твая памылка ў тым, што ты абагуліваеш тое, што зьяўляецца выпадковым, асобныя факты ўвазводзіш у закон. У гэтай запутанай цямніцы, якой зьяўляецца палавое пытаньне, цяжка вывадзіць што-небудзь агульнае. Напрыклад, ёсьць "старыя дзевы", застаўшыяся выпадкова такімі. Можа быць яны былі шмат вышэй за тых жаніхоў, якія іх сваталі, за той асяродак, у якім яны жылі. Па-майму, лепш зусім не выходзіць замуж, чым выходзіць абы-як. Ты глыбока памыляешся. Але наогул скажы ты мне, для чаго ты гутарыш на гэтую тэму? Мне дагэтуль няясна, які вывад ты хочаш зрабіць.

Тугоўскі маўчаў.

— Мне здаецца, адзіны вывад, — прадоўжываў Кірыла, — што каб кахаць і быць каханым, трэба зрабіць добрую карду[1].

— Вось праўду кажаш, "айцец" Кірыла, — прамовіў Тугоўскі, ставячы куфаль на стол. — У

156

наш капіталістычны век запраўды так: каб быць каханым, трэба мець капітал або займаць высокае палажэньне на грамадскай драбіне. Але ў тым вось і бяда, што я не магу йсьці па шляху нашых беларускіх студэнтаў у Празе. Адзін хоча стаць інжынерам, каб разбагацець і пакахаць графіню. Другі — пабудаваць уласную вілу, трэці — стаць доктарам і купіць уласны аўтамабіль. Кожны думае аб сваей кар'еры. На жаль, у мяне гэтых думак няма, бо, каб у мяне гэтыя думкі былі-б, напэўна, я быў-бы больш шчасьлівым, зрабіў-бы кар'еру, разбагацеў-бы, як іншыя, і знайшоў-бы нарэшце прадмет каханьня. А зараз я памёр: я кінуў вышэйшую школу, бо яна рыхтуе толькі кар'ерыстаў і лёкаеў для капіталістаў, да чаго калісьці заклікаў залатазубы прафэсар палітычнай эканоміі. Я кінуў той прадмет каханьня, які таксама, мне здаецца, думае аб кар'еры й аб мужу-кар'ерысту. Я вырваў з болей сваё каханьне, кажу табе шчыра, "айцец" Кірыла. З болей пакінуўшы ў сваім сэрцу глыбокую рану, якая вечна застанецца са мной, пакуль будзе цячы кроў у жылах. Я памёр для гэтага сьвету, памёр для інтэлігэнцыі, якая панясе эўрапейскую панскую культуру на Беларусі. Я сам сябе зажыва пахаваў у яму, каб я ня стаў тым, каго болей усяго ненавіджу: інтэлігентам, які ненавідзіць рабочых, бо яны сьмярдзяць. Ня ведаю, што такое творыцца са мной; можа быць я вар'яцею, але я кахаю яго, чалавека паніжанага й абражанага. Сам я паніжаны й абражаны, сам я ўсё жыцьцё рос у склепах, пад падлогай тых, хто саладзіўся жыцьцём, сам я насіў на сваім твары пляму "плябей", і таму як мне не стаць у шэраг паніжаных і абражаных? Так, чалавеча, я звар'яцеў. Я стану работнікам — у той час, як сябры

157

зробяцца капіталістамі. Праз шмат гадоў, калі я пайду па вуліцы ў чорнай куртцы работніка, я, напэўна, убачу дом Бурака, можа вілу Тамашэвіча ці Станкевіча, убачу вялікія фіранкі на вокнах, убачу, як будзе стаяць Бурак з сваей прыгожай жонкай і будзе глядзець на вуліцу. Убачу, як Бурак пазнае мяне і з трывогай адвернецца да сваей жонкі, пытаючы яе паглядам: ці не пазнала яна таго, хто быў яго сябрам. А я пайду міма, міма... Але я ня буду шкадаваць гэтага, "айцец" Кірыла. Вып'ем за маю сьмерць! Ну, падымай куфаль за духовую сьмерць Тугоўскага!

Кірыла маўчаў. Ён задумана глядзеў у туманную піўную жыжку ў шклянцы і нешта крэсьліў на мокрым сьляду піва пальцам на стале. Ён доўга маўчаў.

— Ты паэт, Тугоўскі, — нарэшце вымавіў ён. — Гэтым усё сказана. І ў гэтым тваё няшчасьце. Паэт не такі, які творыць сабе славу й славу свайму народу вершам, але паэт па натуры, па свайму ўспрыманьню сьвету, па свайму падходу да жыцьця. Ты безумоўна загінеш... А шкада, мне ўсё ж ткі падабаецца твой падход да сацыяльных пытаньняў, да работніка. — Ён хлібнуў некалькі глыткоў піва.

— Чаму я загіну? — трывожна запытаў Тугоўскі.

— Ты зрабіў велізарную памылку, што пакінуў унівэрсытэт. Памятаеш, як табе казаў калісьці астральны чалавек: "Канчайце унівэрсытэт. Атрымайце дыплём. Інакш вас затруць дыплёмаваныя дурні ў жыцьці. Памятаеш гэта? І ты не паслухаў. Ты паэтычна падыйшоў да лекцый, да таго самага залатазубага прафэсара, ты занадта блізка прыняў да сэрца яго сьцьверджаньні й паэтычна абурыўся. Ты занадта паэтычна аднёсься

158

да Вярхоўскай. Падумай, каго там кахаць? Па-майму, гэта толькі пахучы кавалак мяса. А ты паэтычна ідэалізаваў яе, ты закахаўся ў яе — што з-за яе пайшоў быў скочыць як баран у ваду.

— Не, брат, Вярхоўскай ты ня ведаеш, — абараняўся Тугоўскі. — Аб ей мы ня будзем гутарыць... Не хачу хаваць, што з-за яе я галоўным чынам кінуў унівэрсытэт, што калі-б яна кахала мяне, я гатоў-бы прынасіць сябе нават у ахвяру й зрабіць якую-колечы кар'еру, як іншыя беларускія студэнты. Можа быць, ня ведаю. Але цяпер унівэрсытэт для мяне на замку: я хачу апрасьціцца. Я даўно хацеў апрасьціцца. Вярхоўская толькі дапамагла мне ў гэтым, разьбіўшы мае апошнія надзеі. Вярхоўская была-бы местам, злучыўшым мой сьвет работніка з тым сьветам інтэлігэнта. Мне да апошняга часу яшчэ здавалася, што гэта магчыма. Я думаў праз сябе апрасьціць Вярхоўскую. Я думаў: яна пакахае мяне як чалавека. Але я бачу, што для яе я павінен таксама стаць кар'ерыстам, таксама, скончыўшы унівэрсытэт, павінен стаць панам, запамятаць аб сваім сацыялізме і купіць сабе аўтамабіль. Не... Не хачу... Я яшчэ знайду ў сабе досыць сілы, каб адкінуць такое жаданьне. Я памёр для тых, хто прывёў мяне ў Прагу, каб я вяртаўся назад прафэсарам. Аказываецца, з мяне выйшаў не прафэсар — брадзяга... Дык вып'ем за новага Тугоўскага! За новага чалавека, які пойдзе ў народ, каб самому стаць народам, а?.. Падымай куфаль...

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 41.**

159

— Не... Не... За брадзягу Тугоўскага? Не... Я падымаю свой куфаль за Тугоўскага-прафэсара.

— І ты, "айцец" Кірыла, — схапіў за яго рукаў Тугоўскі, — і ты належыш да таго лагера, да тых інтэлігэнтаў? Знача, і ты, жывучы ў Празе, ува ўсім разачараваўся, — ува ўсей беларускай справе, ува ўсім народзе; знача і, па-твойму, трэба зрабіць кар'еру?

— Так, чалавеча, каб біць буржуазію, трэба мець яе аружжа ў руках — культуру. Без гэтага ўся наша зброя — толькі кардонны меч, якім мы па-дзіцячаму размахівалі ў паветры.

Яны зноў пачалі спрачацца. Яны не прыкмячалі, што іх спрэчкі рабіліся ўсё больш і больш плутанымі.

Тугоўскі першы пабачыў, што іх спрэчкі ні да чаго не прыводзяць і што ён сам увесь быў сатканы з гэтых супрэчнікаў.

— Вып'ем, "айцец" Кірыла, усё ж ткі за маю сьмерць. Вып'ем за маю будучую жонку — простую сялянку.

— Во, за тваю жонку-сялянку п'ю. Процi гэтага нічога ня маю. Я думаю, што ты можаш быць прафэсарам і мець жонку-сялянку.

— Не, я хачу знайсьці такую жанчыну, якая кахала-б мяне як чалавека, незалежна ад таго, якое паложаньне я займаю. Без каханьня, без жанчыны я жыцьця сабе ня ўцямлю... Я хачу яшчэ выпіць гэтую чару каханьня да дна.

— Паэт ты, Тугоўскі, паэт... У гэтым тваё няшчасьце, — паўтараў Кірыла. Яны выпілі апошні куфаль.

Калі яны ўсталі ад стала, зямля акрэслена калыхалася пад іх нагамі. Над імі вісеў на якары перад уходам у піўную вялікі гадзіньнік з пры-

160

гожымі стрэлкамі. Ён паказываў далёка за поўнач... Кірыла расстаўся:

— Я думаю, ты не паедзеш з Прагі, — казаў ён, паціскаючы руку Тугоўскаму, — я думаю, мы цябе яшчэ ўлаштуем на стыпэндыю.

— Не, "айцец" Кірыла, дзякую за ласку. Усё скончана. Я еду на гэтых днях на Бацькаўшчыну. Шчасьліва заставацца.

Яны пайшлі рознымі дарогамі.

## IX

Студзёнае марознае паветра гнала капялюш з галавы Тугоўскага. Ён ішоў па шумных асьветленых вуліцах апошні, як яму здавалася, раз, стараючыся ўдыхаць арамат начнога жыцьця вуліц. Ісьці дахаты яму не хацелася. Інтэрнат здаваўся пеклам, у якое ён папаў для пакуты. Ён ішоў і бачыў, як усё жыцьцё начной Прагі круцілася каля аднаго цэнтру — жанчыны. Усе дбалі аб ей, усе ішлі з ей, усе шукалі яе. Ён зноў пачуў сябе адзінокім... Ён успомніў, што ўцёк да "Флэка" таму, што на карнавале пабачыў Вярхоўскую з Загорскім. Як весёла цяпер у Студэнцкім доме. Як, напэўна, сьмяецца Загорскі, цалуючы яго каханьне... А ён ідзе ўсё таксама адзін, не маючы магчымасьці схапіць яе ў свае абоймы... Няўжо гэта так будзе вечна? Ён ішоў й успомніў надпіс "У Флэка" пра дары каханьня. Для каго гэтыя дары?

---

[1] Карду — кар'еру.

